Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 7 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 14-га верасьня 1933. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў у рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр. у 3 » —70 » | у ½ года—1.30 у 1 год —2.50

## Будзьма гатовымі!

Запраўды ні адна дзялянка нашай грамадзка-культурнай працы так ні закінута, так ні запушчана, як справа самаўрадаў. Да яе мы прызвычаіліся адносіцца, як да справы, якая не заслугоўвае на паважныя да яе адносіны, якая пры найбольш спагадных варунках ня зможа даць нам нічога пазытыўнага.

На ўсей Зах. Беларусі мы спатыкаем бадай толькі паасобныя выпадкі, калі гмінныя радныя—сьвядомыя беларусы — пасланыя ў раду шэрай, сярмяжнай, вясковай масай вядуць працу ў інтарэсах сваіх выбаршчыкаў, бароняць правоў беларускай беднаты. У пераважнай-жа большасьці—самаўрадавых інстытуцыяў мы не выкарыстоўваем, мыльна ўважаючы, што яны нам нічога ня змогуць даць, што самаўрадавая „калатня“ нас не павінна абходзіць, што, адным словам, гэта не для нас.

Праўда, аграмадная большасьць гарадзкіх і гміных самаўрадаў, дзякуючы раду акалічнасьцяў, не рэпрэзэнтуюць запраўднай волі народных мас, не адбіваюць таго, чым жыве працоўная вёска і горад. Аднак гэта, на здаровы розум, не павінна было-б настройваць нас супроць „нудных і нічога не даючых дыспутаў у самаўрадавых гаварыльнях“. Гэта ні ў якім выпадку не павінна было-б адстрашыць нас ад працы ў самаўрадавых установах. Наадварот, тым большых высілкаў належала-б прылажыць для выкарыстаньня тых найменшых магчымасьцяў, што дае нам жыцьцё.

Набліжаюцца выбары да самаўрадаў. Будуць яны адбывацца згодна з новым самаўрадавым законам, законам, які ўвайшоў у жыцьцё у ліпені г. г. і які ў значнай меры утрудняе, асабліва для нацыянальных меншасьцяў, правядзеньне сваіх прадстаўнікоў. Асноўныя рысы новага закону зводзяцца да ўспраўненьня апарату шляхам аддаўньня ўлады ў рукі гарадзкіх прэзыдэнтаў або кіраўнікоў гмін, поўнасьцю залежных ад дзяржаўнай улады. Уводзяцца розныя цэнзы і агранічэньні, як экзамены для гарадзкіх радных і навуковы цэнз для членаў гарадзкіх упраў. Апрача таго вымагаецца веда польскай мовы ў слове і пісьме, што асабліва моцна адаб'ецца на няпольскай люднасьці. І ўрэшце дзяржаўная ўлада мае права ўняважніць выбраныя інстытуцыі ў горадзе і вёсцы, а таксама завешваць усялякія пастановы.

Усё гэта, бязумоўна, ня будзе спрыяць правядзеньню намі сваіх дэлегатаў у самаурадавыя ўстановы. Усё гэта яшчэ у большай меры загародзіць нам доступ да трыбуны, з якой мы вуснамі сваіх выбранцаў можам дамагацца належных нам правоў. Урэшце ўсё гэта яшчэ больш утрудніць самую працу для самаўрадаў, якія амаль поўнасьцю ўзалежніваюцца ад дзяржаўнае ўлады. Аб гэтым нядвузначна гавораць самы тварцы новага закону, аб гэтым без агародак піша ўрадавая прэса.

Але ці гэта павінна змусіць нас да бязчыннасьці на самаўрадавай ніве? Ці павінны мы апусьціць рукі, спатыкаючыся з такімі труднасьцямі? Уся дацяпершняя практыка кажа, што — не! Справа самаўрадаў запушчана, — але важная справа! Зразумелая рэч, самаўрад, як такі, ня зможа нам даць паправы быту. У гэтым мы згодны з некаторымі нашымі карэспандэнтамі. Але пры найбольш няспрыяючых умовах гмінны і гарадзкі самаўрад мы можам зрабіц для сябе трыбунай нашых дамаганьняў, трыбунай, з якой мусіць быць чуваць голас усьведамленьня беларускіх народных мас. Сьвядомы радны-беларус ідзе ў самаўрадавыя палаты не для таго, каб там, седзячы на мягкіх ці цьвярдых крэслах пактаваць, а для таго, каб трэбаваць адчыненьня роднай-школы, парушаць падатковыя цяжары, дамагацца субсыдыяў для падтрыманьня беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў, помачы для незаможных вучняў беларускіх школаў, запамогі для безработных і т. п. і т. п.

У такім толькі выпадку праца ў самаўрадах будзе адным з важнейшых адцінкаў нашай вызваленчай працы. У такім толькі выпадку мы здолеем ператварыць *справу самаўрадаў—у нашу справу*. А зразумеўшы і ператварыўшы, прыступіць да актыўнай дзеяльнасьці.

Надыходзяць выбары. Ужо цяпер трэба думаць аб тым, як правясьці ў самаўрадавыя ўстановы сваіх шчыра-беларускіх прадстаўнікоў.

Будзьма гатовымі!

## Іх выхад.

Для нас ніколі не падлягала сумляваньню, што беларускія хадэкі зьяўляліся і зьяўляюцца заятымі ворагамі запраўднага нацыянальнага адраджэньня нашага народу. Гэтага ня трэба даказваць. Гісторыя беларуска-вызваленчага руху ёсьць найлепшым і найбольш верыгодным сьведкай хадэцкага прадажніцтва, іх гандляваньня скураю беларускіх народных мас.

Ня ўсьпеў рухнуць расейскі царызм, як хадэцка-ксяндзоўская сямейка бяз доўгага намыслу кінулася ў мілыя абняцьці ўраду Керанскага, каб патаргавацца з ім адносна цаны беларускага народу, дэкляруючы новым панам Расеі папхнуць яго на далейшую бойню супроць нямецкага імпэрыялізму, на абарону „единой и неделимой“. Зьмянілася сытуацыя і Станкевіч з кампаніяй, як праўдзівыя сыны бацькаўшчыны „б'ют челом“ нямецкаму кайзэру, благаслаўляючы яго на пасад патрыярха беларуска-польскіх зямель, маючы сьветлую надзею атрымаць за гэта і для сябе сякі-такі доступ да апарату вызыску народных мас. Далей ідуць доўгія гады заядлай, неперабіраючай у сродках, барацьбы супроць усяго, што народна-беларускае, супроць кожнага кроку ў беларускім руху, які зроблены ў інтарэсах найшырэйшых пластоў беларускіх мас. Сяньня-ж беларускую хадэяду як смага пражыць якнайхутчэйшая рэалізацыя Адольфам Гітлерам яго ўсходняй апэрацыі, якая і Станкевічаў з Пазьнякамі не павінна пакінуць бяз увагі, бо-ж яны будуць ахвотна памагаць пасоўваць „нямецкую расу на ўсход“.

Але на працягу ўсяго свайго панурага жыцьця хадэцкая супалка запраўдную ўласную дзеяльнасьць старалася і стараецца схаваць за чорны параван радыкальна-нацыянальных фразаў, убіць праз сваю „Крыніцу“ ў галовы менш сьвядомых масаў думку пра тое, што Х. Д. стаіць на грунце абароны жыцьцёвых інтарэсаў бел. народу. І трэба з жалем адзначыць, што ім гэта часткова ўдавалася, асабліва ў мамэнты, калі бел. масы былі поўнасьцю пазбаўлены свае роднае прэсы.

З тым большай цікавасьцю мы прагледзелі апошнія нумары „Б. Крыніцы“. І што-ж аказваецца? А тое, што „абаронцы беларускай культуры“ яшчэ раз паказалі сваё запраўднае абліччa.

У гарачы школьны час, у мамэнт, калі ўсё шчырае бел. грамадзянства скупляе сваю ўвагу і дзеіць у кірунку адчыненьня родных бел. школаў, школаў, які-б паднялі нас на вышэйшы узровень культуры і сьвядомасьці, якія-б сталіся жывучымі крыніцамі нашага нацыянальнага жыцьця—у гэты сама мамэнт хрыстусовыя дэмакраты на школьнай ніве ня толькі нічога ня робяць, але наадварот, стараюцца адцягнуць нас ад імкненьня да здабыцьця роднае школы. Хадэцкія грабары бел. школьніцтва з уласьцівай ім пільнасьцю выконваюць уласную ролю. І цікава, што сваю выразна здрадніцкую роботу не стараюцца ўжо нават закутаць у бавоўну прыгожых слоў. У школьным артыкуле „Б. Крыніца“ (№ 27) ні бэ, ні мэ аб тым, што трэба дамагацца роднае школы і як гэта рабіць. Ні слова! У артыкуле ясна выражана думка ХД: „Пакіньце думаць аб беларускай школе! Ня час цяпер не гэта!“ І павучае:

„беларускія бацькі дзяцей сваіх павінны кіраваць перадусім у такія школы, якія ад вёскі іх не адрываюць, але з ёй зьвязваюць і якія робяць з іх карысных грамадзян“ г. зн.

„гаспадароў, малачароў, каапэратараў, тэхнікаў, вучыцялёў, самаўрадавых і ім падобных працаўнікоў“.

У наступным нумары тае-ж „Крыніцы“ аўтар, пабедаваўшы аб „ненармальным пераросьце сьведамасьці палітычнай коштам культуры“ — выводзіць:

„У гэтай бядзе, ясная рэч, найбольш нам была-б памоцнай родная школа, але яе сёньня ня маем і хто ведае (бедныя!) калі яе будзем мець“.

Значыць, сядзі і чакай. Можа спрагнены Гітлер зробіць ласку і прынясе нам школу. А пакуль што выхад у гадаваньні гаспадароў, малачароў і т. д. Так бароняць беларускі народ «бацькі» беларускага адраджэньня, цягнучы яго у балота здрады яго-ж інтарэсаў.

Мы аб гэтым ведаем. *П. С—кі.*

## Банкруты за працай.

У канцы прошлага месяца ў Парыжы адбыўся кангрэс II Інтэрнацыяналу. Зьехаліся Баўэры, Вандэрвэльды, Вэльсы, ну, і нашы Недзялкоўскія на нараду аб тым, як ратаваць банкруцтва, крызіс міжнароднай сацыял-дэмакратыі, якім спосабам і надалей гандляваць рабочай клясай, робячы аднача́сна міну абаронцаў працоўных і прыгнечаных.

Падставаю міжнароднае палітыкі II Інтэрнацыяналу было імкненьне да супрацоўніцтва ўсіх капіталістычных дзяржаў у рамах Лігі Нацыяў, да абароны вэрсальскага трактату, да барацьбы з міжнародным рухам працоўных мас. Асноўнай задачай у ўнутранай палітыцы яго зьяўлялася ўпаяньне масам думкі аб тым, што сучасны лад увайшоў у т. зв. фазу „арганізаванага капіталізму“, а значыць можа разьвівацца бяз новых войнаў за новы перадзел сьвету, што такім чынам парлямэнтарная дэмакрацыя ёсьць адзіны шлях да пабудовы новага бязклясавага грамадзтва. Падстава гэтая засталася і застаецца для міжнароднай С.-Д. і на далей.

Але выпадкі апошніх гадоў, выпадкі, якія прывялі сьвет да парогу новай сусьветнай бойні, калі на Далёкім Усходзе і ў Паўднёвай Амэрыцы грымяць не пацыфістычныя фразы, а шасьцідзюймкуоі, калі Ліга Нацыяў, паказаўшы сваё праўдзівае абліччa выявіла адначасна поўнае „бязсільле“ ў ліквідацыі ваенных канфліктаў; калі хваленая сацыял-дэмакратамі парлямэнтарная дэмакратыя ў перадавых краінах Эўропы прывяла і прыводзіць да фашыстоўскіх дыктатураў, калі кіраўнікі сацыялістычных партыяў на працягу дзесяткаў гадоў на практыцы паказвалі сябе, як абаронцаў пануючых клясаў — выпадкі гэтыя мусілі захістаць падставай II Інтэрнацыяналу. А крызіс і лявеньне рабочых мас прыводзіць да аканчальнага развалу II Інтэрнацыяналу, як міжнароднай сілы.

Трэба ратунку! Трэба бараніць сябе перад поўным банкруцтвам! Вандэрвэльды і Баўэры зразумелі гэта і прыступілі да шуканьня ратунковых спосабаў.

Склікаецца кангрэс II Інтэрнацыяналу, кангрэс, які мае выкаваць новую зброю ашуканства для эсдэцкіх галавароў, налажыць новую, больш дасканальную маску на галовы Вандэрвэльдаў. Кангрэс адбываецца пры зачыненых дзьвярох, бяз удзелу прадстаўнікоў прэсы. Лідэры Інтэрнацыяналу Здрады, відаць, стараліся скрыць ад шэрых нізоў расклад сусьветнага эсдэцызму, ня хочуць паказаць шырокім масам таго факту, што II Інтэрнацыянал што-раз цясьней і цясьней зьліваюцца з тымі, супроць каго на словах змагаецца. Выступленьні паасобных дэлегатаў з усей навочнасьцю паказалі, што задача кангрэсу зводзілася да ўтрыманьня лявеючых масаў народу пад уплывам сацыялістычных партыяў. Для гэтай мэты яны вылазілі з скуры, стараючыся апраўдаць іх дацяперашнія лізаньні гітлероўскіх ботаў, адважваючыся нават (а як-жа!) назваць гэта „памылкай“, а з другога боку з іх вуснаў ліліся дэмагогічна-рэволюцыйныя песьні, маючыя быць дымовай заслонай бруднай і агіднай работы.

Прынятая абсалютнай большасьцю галасоў рэзалюцыя, у якой побач з звычайнай фразэолёгіяй правадыры сацыялізму заклікаюць да супрацоўніцтва з пануючымі клясамі, да абароны кожнай сацыялістычнай партыяй свае цяперашнае бацькаўшчыны—сьведчыць аб новым і аканчальным кроку II Інтэрнацыяналу ў сваім гістарычна-азначаным кірунку. І нічога дзіўнага, што сусьветная прэса бяз розьніцы кірункоў кажа сяньня аб банкруцтве II Інтэрнацыяналу і аб зьліцьці яго з фашызмам. *Ю. Дубік.*

# Хто спаліў?

Сусьветная апінія зацікаўлена набліжаючымсе працэсам аб падпале нямецкага парляманту ў лютным гэтага году. Сяньня ўжо ні для кога ні зьяўляецца тайнай, што падпал быў справай рук самых гітлероўцаў для таго, каб бэрлінскім полымем распаліць дзікі шал перасьледаваньня палітычных праціўнікаў гітлерызму, каб бэрлінскім пажарам заглушыць хвалю гневу мільёнаў безпрацоўных, галодных, прыгнечаных.

Кожын, хто ўмее і хоча бачыць, увесь культурны сьвет зразумеў, што падпал Рэйстагу зьяўляецца вялікай і ганебнай правакацыяй нямецкага працоўнага народу правадырамі нацыянал-сацыялізму, і што сяньняшняе інсцэнізаваньне гітлероўцамі працэсу ёсьць толькі спосабам замаскаваньня іх варварскага ўчынку. Лейпцыгскі суд дня 21 верасьня мае давесьці «віну» падсудных і гэтым самым у вачу сьвету апраўдаць гітлероўскія бронзавыя кашулі.

Усё гэта аднак шыта вельмі і вельмі грубымі ніткамі і ня зусім зграбнымі гітлероўскімі краўцамі. Полымя пылаючага Рэйхстагу сталася ня толькі прычынай бушуючага гітлероўскага тэрору, але ў першую чаргу асьвяціла праўдзівае аблічча нямецкай свастыкі, асьвяціла шлях для мільёнаў нямецкага народу перамогі над урадам вайны і тэрору. Пылаючы Рэйхстаг спаліў ілюзіі ў масах рабочых, сялян і дробнага мяшчанства аб тым, што Гітлер прынясе ім збаўленьне. Пылаючы Рэйхстаг запаліў сэрцы ўсяго чэснага культурнага сьвету ненавісьцю да нямецкага вандалізму.

Сяньня перад надыходам працэсу «віноўнікаў» падпалу ўсе лепшыя і шчырыя сілы навукі падымаюць свой голас пратэсту і абароны падсудных. Створаны адумысловы міжнародны камітэт на чале з вядомым вучоным праф. Эйнштэнам для разсьледаваньня справы, каб на падставе аўтэнтычных дакумэнтаў зьдзерці маску з твару правакатараў, даказваючы, што падпальшчыкамі зьяўляюцца самы гітлероўцы. Адзін з найвыдатнейшых францускіх адвакатаў—Моро Жыафэры, які меўся бараніць падсудных, у гутарцы з журналістамі заявіў, што віноўнікам у падпале ён лічыць самога міністра-гітлероўца—Герынга. — Ен, а ні хто іншы арганізаваў гэты падпал. Ен выдаў загад спаліць Рэйхстаг. Але каб гэта зрабіць патрэбна было ўжыць некалькі сот кілёграмаў нафты. Дастава такой колькасьці нафты ў Рэйхстаг не магла быць не заўважана паліцыяў, каторая пільнавала будынку. Падпальшчыкі прынесьлі ўвесь лёгкагаручы матэрыял падземным карыдорам, злучаючым будынак парляманту з дварцом Рады Міністраў. У той час у дварцы жыў міністар Гэрынг, каторы быў адначасова і старшынёй Рэйхстагу. У канцы свае гутаркі адвакат зазначае: «Я ведаю, што я ня буду абараняць падсудных, бо гітлероўскі рэжым за надта баіцца праўды, а праўдай у гэтай справе ёсьць тое, што падпал Рэйхстагу дакананы Гэрынгам».

Апошнімі днямі газэты падалі вестку аб тым, што маскоўская радыё-станцыя абяцае ў дзень пачатку працэсу агаласіць усяму сьвету прозьвішчы і адрасы дзесяцёх гітлероўцаў, якія прымалі безпасярэдні ўдзел у падпале Рэйхстагу. Усё гэта аднак не зьмяняе факту, што замкнутых у вастрозе «віноўнікаў»: Торглера і трох баўгарскіх камуністаў чакае шыбеніца або ў найлепшым выпадку вечны вастрог. Торглер, як падае француская газэта «Рэмпарт», сядзіць у вастрожнай цэлі закуты ў кандалы. Апошнімі часамі пачалі хадзіць нават упорлівыя чуткі аб тым, што працэс можа не адбыцца з увагі на хварабу падсудных, каторыя могуць не дажыць да суду.

*А. Бор.*

# Што пішуць?

## Аб ураджаі і голадзе.

Старым звычаем з настаньнем уборачнай кампаніі ў Саветах уся мяшчанская прэса распачала шалёны крык аб голадзе ў СССР, пры чым паводле некаторых пісакаў голад гэты мае распачацца пунктуальна з пачаткам новага году. Ня сказана толькі гадзіна. І так усякі год. У сваіх рэвэляцыях кожная амаль газэта, для большай мусіць верагоднасьці, паклікаецца то на на галасы выдатных амэрыканскіх або нямецкіх палітыкаў ці эканамістаў, то на апавяданьні «падарожнікаў», то на атрыманыя ад знаёмых у СССР пісьма, то, проста, на ўласнае пачуцьцё аб тым, што ў СССР мусіць быць голад, бо там Сталін і яго сьвіта ўсё зьядаюць. Зразумелая рэч, што і хадэцкая „Крыніца“, пачуваючыся да свайго грамадзкага абавязку мусіла грымнуць да чытачоў аб „страшным знаку сьмерці“ у СССР, прычым таксама паклікаецца не абы на каго, а на самога гэнеральнага сэкрэтара кангрэсу нацыянальных меншасьцяў, некага Аммэндэ. І так „Крыніца“ кс. Станкевіча сваю заметку „Голад у Саветах“ канчае такімі вось, запраўды, грознымі словамі:

„Словам, уся старонка Саветаў стаіць прад страшным знакам сьмерці. Ці аб гэтым ня ведае „Беларуская Газэта“? А калі ведае, то чаму маўчыць ды толькі выхваляе „сацыяльныя і тэхнічныя здабычы“? І закончыўшы гэтым рэторычным пытаньнем „Б. Крыніца“ з задаваленьнем думае, што яе чытач ўжо адураны.

Як-жа, ёсьць у запраўднасьці з гэтым голадам?

Добры знаўца стасункаў у Савецкім Саюзе карэспандэнт польскага ўрадавага органу „Газэты Польскай“ Отмар, які знаходзіцца ўжо ў СССР на працягу 16 месяцаў піша, што

„паводле ўсіх маючыхся вестак сёлетні ўраджай збожжа ў СССР перавысіў найбольш оптымістычныя чаканьні і параўноўваецца з рэкордным ураджаем у Расеі ў 1913 годзе“.

З гэтага і з прабегу уборкі ўраджаю Отмар заключае, што

„як-бы там ня было голад у гэтым годзе і ў будучым не пагражае Расеі“. Вось так выглядае „крынічны“, „знак сьмерці“.

А вось што піша прэса аб падарожжы ў СССР аднаго з найбольш вядомых і выдатных францускіх палітыкаў — Эдварда Эрыо, каторы ў пачатку гэтага месяца прабываў у Саветах. Той самы Отмар піша аб гэтай падарожжы:

„У прыватных гутарках з савецкімі публіцыстамі госьці (Эрыё і яго спадарожнікі—рэд.) сьцьвердзілі, што Адэса выглядае шмат чысьцей ад многіх правінцыянальных гарадоў Францыі, захопліваліся надзвычайным ураджаем і ўжо пасьля двух дзён пабыту ў СССР сканстатавалі з поўным пераконаньнем, „што француская публічная апінія была ашукана, перадусім што тычыцца паведамленьняў аб убогасьці ўкраінскіх сялян“.

Запраўды, каб гэта так было, як хочацца „Крыніцы“ і ёй падобным, дык СССР доўно пературылася-б у краіну трупаў, па якіх шагаў-бы толькі пражорлівы Сталін пад руку з Кагановічам. А тым часам „Kur. Wileński“ падае, што ад 1926 да 1-I/1932 г. населеніцтва СССР павялічылася на 16 мільёнаў чалавек, прычым натуральны прырост значна перавышае прырост перадавых краінаў Захаду.

*Вера М.*

# Створым літэратурны цэнтр!

У наступным нумары „Беларускае Газэты“ мы арганізуем *літэратурную старонку,* маючы выдаваць такія старонкі што месяц. Прыступаючы да гэтае важнае справы, мы хочам падзяліцца думкамі адносна задач, якія перад сабою ставім.

Па ўсіх, нават самых глухіх кутках нашае Заходняе Беларусі раскіданы *паэты-самародкі,* якія і сваім жыцьцём і сваёй творчасьцю неразлучна зьвязаны з народнымі масамі. Іх гусьлі — гэта злыбеды сёньняшняга жыцьця народу, гэта сьвядомасьць гора і радасьць працы, гэта сны і лятуненьні пра лепшае заўтра. Таму іх творчасьць — блізкая і зразумелая масам народу, таму яна ідзе ў народ і звычайна ў форме безыменных песень-вершаў узбагачае духовы народны скарб.

*Выцягваць* такіх паэтаў-самародкаў на грамадзкую вышыню, рабіць іх творчасьць уласнасьцю *шырэйшых* мас народу і гэтым самым дапамагаць *творчаму* росту самых аўтараў — такую задачу мы ставім перад нашымі літэратурнымі старонкамі.

Даходзяць весткі, што там-сям гэтыя паэты-самародкі пачыняюць *стыхійна гуртавацца.* А гэта сьведчыць аб ужо насьпеўшай патрэбе яднаньня расьцярушаных адзінак у сапраўдны літэратурны фронт. Да гэтага часу ня было таго творчага цэнтру, які праводзіў-бы гэтае яднаньне. Беларускія літэратурныя часопісі, што зьяўляліся дагэтуль, ні па свайму ідэйнаму напрамку, ні па свайму характару ня выконвалі ні ў якай меры і не маглі выконваць гэтага заданьня.

Прыступаючы да выданьня літэратурных старонак у „Беларускай Газэце“ мы ставім перад імі задачу быць часова такім *гуртуючым творчым цэнтрам*, пакуль, сабраўшы сілы, не здабудземся на лепшы.

Таму заклікаем нашых паэтаў-самародкаў прыняць удзел у тварэньні першай-жа літэратурнай старонкі ў „Беларускай Газэце“. Прысылайце свае вершы і апавяданьні так, як яны у Вас напісаны, не саромяючыся ні кульгавага, падчас, падчарку, ні карава выказаных думак. *Гуртуйцеся вакол свае газэты, будзем разам супольнымі сіламі выпраўляць, вучыцца, расьці!*

Адначасна зьвяртаемся да ўжо *выяўленых прызнаных* беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, *якія сваю творчасьць хочуць аддаць на служэньне вызваленчай справе нашага народу,* з гарачым заклікам далучыцца да нашай працы, прыняць актыўны ўдзел у літэратурных старонках і гэтым дапамагчы ў арганізаваньні літэратурнага творчага цэнтру.

**Рэдакцыя.**

# Нашае жыцьцё.

### Як у пас працуюць?

(Сьвіслач). Так як і ў іншых аколіцах Зах. Беларусі, ў нас сэзонныя работнікі—вясковая бедната—працуюць за мізэрную плату. І ў абшарніка і ў вясковага багача (кулака) мужчына зарабляе 1 зл. — 1 зл. 50 гр., а кабеты—ад 50 гр. да 1 зл. У маёнтку мужчыны касілі жыта па 6 зл. ад гэктара (скасіць, зьвязаць і паставіць у ляшкі). На выкананьне гэтай працы трэба добра ад сонца да сонца папаліць поту. Так што выходзіць па 1 зл. 50 гр. у дзень. Ня гледзячы на такія варункі працаваць мы працавалі, бо трэба жыць. Дзеці просяць есьці. Сэквэстратар таксама не дае ўгалку.

Аднак, ня гледзячы на гэта, мы паступова пачынаем адчуваць, што так як фабрычныя рабочыя і мы мусім змагацца за людзкія варункі платы і працы.

*Незнаёмы.*

### Гоняць „Белар. Крыніцу“.

(Карэлічы, Навaградчына). Я вясковы інтэлігент. Веду сваю здабыў часткова ў школе, а часткова дома. Скончыўшы сем аддзелаў пачатковай школы, я пастуціў у Беларускую Гімназію ў Наваградку думаючы:

Вось, хіба, калі зробяць з мяне праўдзівага беларуса. У хуткім часе пераканаўся, што вельмі памыліўся. Праўда, навучылі трохі арытмэтыкі, альгебры і другіх рэчаў, але каб штось аб нацыянальна-вызваленчым руху, дык гэтага ніколі ня прыходзілася чуць.

Цяпер, пачуўшы пра „Беларускую Газэту“, як газэту, запраўды, беларускую, пастанавіў яе выпісаць. З першага нумару пераканаўся ў праўдзівым шляху гэтай газэты, ў шляху, які вядзе да палепшаньня долі беларускага працоўнага народу. Гэтую-ж „Беларускую Газэту“, я даў прачытаць тым, што да гэтага часу выпісвалі „Беларускую Крыніцу“. Прачытаўшы яе, яны казалі: „Во, гэта дык газэта, у ёй чалавек убачыць праўдзівае жыцьцё працоўнага люду, а гэтыя «Беларускія Крыніцы», надаелі ўжо нам з сваёй эканоміяй і з сваімі беларускімі папамі. І з таго часу, як паявілася «Беларуская Газэта», «Крыніцам» і т. п. няма ўжо месца ў нашых вёсках.

*Гай N.*

### „Мудрэйшыя за Саламона“.

(В. Буртычы, Лідзкі павет). „Пісьмо гэтае напісана пасьля атрыманьня чацьвертага нумару „Б. Газэты“, а высылаем толькі цяпер таму, што на марку прышлося злажыцца па яйку. Праз месяц часу думаю такім спосабам прыслаць і падпісную плату.

Вёска наша бедная, як і кожная. Кругом знаходзяцца панскія маёнткі. Надзелы маленькія — па 12 дзесяцін, але кожын падзелены на 5, 6, 8, 12 і нават больш частак. Я ўласьнік 1/9 часткі, г. зн. дзесяціны з чэцьвярцю. Паўбяды было-б з абрабленьнем гэтага „абшару“, калі-б ён быў разам у адным мейсцы, а то раскіданы ў касьніках па паўмэтра шырыні. Вось тут і працуй пакультурнаму.

Але цяпер сяляне шмат мудрэйшыя за Саламона. З кожным днём прыдумваюць усё новы і новы спосаб таннага пражыцьця. Ну, як прыстала на XX век, век вынаходаў, ашаламляючага поступу. Хлеб бывае вельмі рэдка на стале. А калі і зьявіцца дык бывае надта дарагім госьцем. Картоплю ўжо не скрабуць, як раней, а ядуць з лупінаю. Гэта ўжо сяньня ў модзе. Сьпёк у агні, абцёр аб нагавіцы і еш. У параўнаньні з прошлымі гадамі солі ўжываецца на палову менш. Без яе можна пражыць. Запалак расходуюць адну пачку ў год. Іх паляць толькі ў важнейшых выпадках. А так карыстаюцца „агнівам“. Курыць шмат хто пакінуу. А хто яшчэ не зрабіў гэтага поступу, дык да тытуну прымешвае розных лістоў. Асабліва ў модзе «бабок», што расьце на балоце. Па горкасьці ня ўступае тытуну. Боты можна здаць у музэй, як рэч аджыўшую, а „гражданство“ атрымліваюць лапці. Я прошлую зіму спаліў адзін літр нафты. „Газоўку“ запальваў толькі ў крайніх выпадках, а так усё лучынаю аддуваўся. Наагул, трудна пражыць. У такіх варунках жыве тры чацьвертых сялянства нашай ваколіцы.

*М.*

P. S. Падпішчыкаў вярбую. Толькі платных ужо маю 5 асоб. Яны самі напішуць у Рэдакцыю.

### Як гэта назваць?

(Сьвіслач, Ваўкавышчына). У нас у Сьвіслачы ёсьць добры начальнік станцыі. Ен, між іншым, робіць выплаты дзенным рабочым. Заместа 5-га кожнага месяца ён цягне аж да 9 або 10-га і такім чынам змушае работніка напрасна хадзіць у Сьвіслач за 30—20 кілёмэтраў. Ён сабе з гэтага нічога ня робіць, а мы змушаны марнаваць і час і здароўе. Як гэта назваць? Нам трэба аб гэтым падумаць і адпаведна рэагаваць.

*Той самы.*

### Культурная праца на вёсцы.

(Вёска Белая, Белавежскай гм.). У нас за шэсьць месяцаў г. г. (1933 г.) было зладжана 4 спэктаклі. Даход з іх прызначаўся на павялічваньне бібліятэкі. Павялічыць бібліятэкі амаль ня ўдалося таму, што пры кожным разе былі вялікія расходы: аплаціць дазвол і наняць музыкантаў.

У м-цы чэрвені с. г. сябры сабраліся да купы і пачалі талкаваць, як-бы наладзіць спэктакль у

# Барацьба з крызісам.

(Друя). Дзякуючы пануючаму сусьветнаму крызісу ўсе гаспадарчыя і палітычныя дзеячы ламаюць свае галовы над вынаходам спосабаў барацьбы з ім. Штодзенная прэса прыносіць нам усё новыя і новыя спосабы гэтай барацьбы. Больш усяго радзіцца нам быць ашчаднымі. Акрамя таго радяць сабіраць ягады, грыбы, лякарскія зёлкі, сушыць іх і збываць па высокай цане. Радзяць насіць вопраткі выключна свайго дамовага вырабу і гэтак далей. Вельмі дзякуем нашым „дабрадзеям" за іхнія рады. Цяпер пабачым, як гэтыя парады прывесьці ў жыцьцё, як іх зьдзейсьніць. Што да ашчаднасьці, то асабліва селянін на вёсцы так прытарнаваўся да яе, што нават і радцам ня прышло ў галовы так парадзіць. Селянін сягоньня хлеб ужо ня соліць, а таксама-ж і іншую страву, зрабіўся амаль што не японцам. Серчыкі шчапае на дзьве, а то і на чатыры часткі. Ёсьць вёскі, складаючыяся з дзесяці хат, дзе з рэвольварам ў руках ня выдабудеш серчыка. Кабеты-гаспадыні навучыліся трымаць у печы вечны агонь, закопваючы яго ў попеле. Што праўда сьпяць да белага дня, бо няма газы і нечым асьвяціцца. Як настаў дзень ўсеседкі з патэльнямі, юшкамі, гаршкамі, бляшкамі і іншымі пасудзінамі, ходзяць адна да другой у пазыкі за вуглём. Купленыя дровы амаль што ўсюды вышлі з моды, бо, як ведама незашта купіць, а паны абшарнікі дый і ўрад з цаной на дровы яшчэ трымаюцца. Дапаліваюць у печах дзе „лішнія" сьцены з хлявоў і гумнаў, шчапаюць скрыні, зэдлікі, выпілоўваюць у будынках маціцы і г. д. Новую вопратку купляць забыліся, мяркуючы старою. Часта і густа сустракаем кабеты, каторай спадніца пашыта з некалькіх гатункаў палатна, а кожнае палатно іншага колеру. Праўда, як цяпер, то й па модзе. Дзеці па сьнягу ў школу ходзяць босыя. Школьныя падручнікі і іншыя прылады купляюцца адны на пяць, на шэсьць вучнаў, ды й то старыя, парваныя. Чарніла прыдумалі рабіць з хімічных алавікоў. Боты з халявамі таксама-ж ня сустракаем, замянілі іх г. зв. апоркі і дзеравянкі, а калі дзе бачым боты з халявамі, то ў іх больш лат, чым ботаў. Сапраўды цяпер мае мейсца старае беларускае прыслоўе: „Лата лату дзяржыць, нітка гвалту крычыць". А вось яшчэ адзін прыклад ашчаднасьці. Калі ў вёсцы зьбяруцца суседзі пагутарыць аб сваей нядолі, то курачыя і ня курачыя ня кураць. Курачыя, каторыя ня маюць махоркі, ня маюць што закурыць і церпяць, а тыя курачыя, што маюць захаваўшы дзеколяны ў кішэньку на адну папяроску, баяцца яе паказаці, бо як толькі пакажа, то іншыя „адбяруць". Калі-ж удасца страсьці па кішанёх, па рубцах вопратак на пару папярос, тады па ўсіх хатах шукаюць чырвонага вугля, а як адзін прыкурыў, іншыя дзеляцца аганьком, як аплаткай. Вось да чаго даходзіць ашчаднасьць, а гэта далёка ня ўсё. Той, хто падае ў газэце рады, як жыць ашчадна, няхай уперад прыедзе на вёску і паўчыцца гэтай ашчаднасьці. Радзяць сабіраць грыбы, ягады і інш! Адкуль-жа браць гэтыя грыбы ды ягады? Дзе ў сяляніна лес, хто яму яго і калі даў? Ці ня Вітас, каторы тры разы быў прэм'ерам. Ці ня прышлося гэткім радцам быць у лясох ці ўрадавых ці панскіх, дзе на кожным шагу напіс: „Zbieranie grzybów i jagód surowo wzbronione". Дзе-ж інакш растуць грыбы і ягады калі ня ў лесе, а калі-б і на небе, то і дастаць трудна ды й кс. Станкевіч яшчэ не пазволіў-бы. Уперад трэба даць селяніну тое мейсца дзе растуць грыбы і ягады дый мейсца дзе садзіць зёлкі, а пасьля радзіць яму сабіраць, сушыць і прадаваць. Гэтага ён ня мае і ніхто яму ня дасьць.

Барацьба з крызісам у галовах сялян і работнікаў інакш прадстаўляецца. Яны інакш радзяць. Яны радзяць, каб сялянам даць мейсца дзе садзіць лекарскія зёлкі, дзе сабіраць грыбы і ягады і дзе лавіць рыбу, а тады яны самы зразумеюць, як з гэтым паступіць. Работніку даць фабрыку, завод, наагул працу, тады ён, бязсумліву, адрачэцца ад „hojnych zapomóg". Трэба каб і інтэлігент, і работнік, і селянін знайшоў сабе працу,—барацьба з крызісам адойдзе на задні плян.

*Язэп Ніва.*

# З апошняе хвілі.

### Катастрофа.

Польскія лётчыкі Філіповіч і Ліванеўскі, якія мелі асягнуць новы сусьветны рэкорд у палёце, праляцеўшы шлях—Варшава | Масква—Екацерынбург—Омск—Новасыбірск – Краснаярск—паводле апошніх вестак, разьбілася каля Казані. Філіповіч выратаваўся пры помачы парашута, а Леванеўскі забіты.

### На Кубе хаос.

Новы ўрад Кубы ня можа апанаваць сытуацыі. У краіне поўная анархія. Рабочыя пад кіраўніцтвам камуністаў, захопліваюць фабрыкі і заводы. Сяляне забіраюць у свае рукі абшарніцкую зямлю. Такім чынам паўстаньнем фактычна ахоплена ўся краіна. З дня на дзень чакаюць зьвяржэньня утворанага ўраду Бацісты і ўстанаўленьня новае ўлады.

# Ці ведаеш што:

× *Запалачны трэст* у Швэцыі пастанавіў агранічыць прадукцыю запалак на 15%, адпаведна да скарачэньня збыту.

× *У Аргентыне* вартасьць заграгнічнага гандлю ў І паўгодзьдзі 1933 г. зьменшылася на 66.569.000 пээзтаў у параўнаньні з І паўгодзьдзем 1932 г., г. зн. на 13%.

× *Новы ваенны газ* прадукуюць днём і ноччу найпаважнейшыя нямецкія хімічныя фабрыкі, які мае нячуваную забойчую сілу. Вынайдзены ён апошнімі часамі нямецкімі хімікамі. Паводле вестак газ гэты пранікае ўсякія маскі і ніякая абарона ня можа яму супроцьстаяць.

× *СССР* на падставе апошніх перагавораў з гаспадарчымі сфэрамі Амэрыкі мае закупіць у Зл. Штатах сельска-гаспадарчых прадукктаў на 30 мільёнаў даляраў, пераважна масла і сыраў.

× *Луначарскі* назначаны савецкім паслом у Гішпаніі.

× *У Польшчы* паводле газэтных даных фармуецца партыя нац-сацыялістаў. У Варшаве, Лодзі і Катавіцах нядаўна адбыліся першыя сходы, на якіх прамоўцы заклікалі да байкоту жыдоўскага гандлю.

× *У Нікарагуа* (Паўдн. Амэрыка) 24 пр. м. адбылося землятрасеньне, якое зьнішчыла поўнасьцю горад Леон.

× *Вайна* на болівійска-парагвайскай граніцы прадаўжаецца. Не памагаюць ніякія пацыфістычныя фразы, ані разбраенчыя канфэрэнцыі.

× *„І. К. С." падае*, што апошнімі часамі на Зях. Украіне здарыўся цэлы рад падпалоў сабраных маёнткамі ўраджаяў. Паводле газэты, віноўнікамі ў гэтых актах зьяўляюцца члены Укр. Ваеннай Арганізацыі.

× *На Кубе*, у зьвязку з апошнімі забурэньнямі, пачалі шыбка ўзрастаць рады камуністычнай партыі. Камуністы праводзяць масу мітынгаў і дэмонстрацыяў, распаўсюджваючы літэратуру.

× *У першай* палове жніўня экспорт каменнага вугля з Польшчы зьменшыўся сярэдня дзенна з 32 тыс. тон на 28 тыс. тон.

× *Былы францускі* прэм'ер Эрыо дня 27 жніўня прыехаў у Саветы для азнаямленьня з жыцьцём СССР.

× *5 выракаў сьмерці* выканана 27-га жніўня г. г. у гітлероўскай Нямеччыне.

× *Газэты даносяць*, што наўпракі ўсім пахвалам нац-сацыялістаў наплыў безработных у Бэрлін прыймае пагражаючыя разьмеры. Урад Гітлера мае прыняць жорсткія меры для недапушчэньня безработных у Бэрлін.

× *На Далёкім Усходзе* палажэньне пачынае завастрацца ў зьвязку з імкненьнем ваенных японскіх колаў да зрыву перагавораў аб прадажы ўсходня-кітайскай чыгункі.

× *Палёт у стратасфэру* савецкіх вучоных адбудзецца ў пачатку гэтага месяца. Старт наступіць у ваколіцах Масквы.

× *Чыгуначная катастрофа* з вайсковым цягнікам здарылася ў правінцыі Шансі (Кітай). Цягнік ішоў на супроцькамуністычны фронт. 60 кітайскіх юнкераў забіта і шмат ранена. Прычына катастрофы—падлажэньне бомбы.

× *6.000 ахвяр* пацягнула за сабою стлуменьне паўстаньня ў Марокко, якое выбухла супроць францускіх уладаў. Палова ахвяр прыходзіцца на французаў.

× *Дня 21 верасьня* ў Лейпцыгу (Ням.), распачынаецца справа аб падпапе будынку Райхстагу.

× *200 кітайскіх афіцэраў* утапілася падчас спаду ваеннага цягніка ў раку Сіао (Кітай), у якім знаходзілася каля 500 афіцэраў.

× *У Ленінградзе* дня 6-га верасьня г. г. адбылася канфэрэнцыя аб Балтыцкім моры, якая мела за заданьне абгаварыць проблему поўнага выкарыстаньня балтыцкага басэйну для народнай гаспадаркі. На канфэрэнцыі прымала удзел больш 100 сав. вучоных і 30 заграгнічных. Прачытана 114 дакладаў.

× *У Нямеччыне* знаходзіцца сяньня 65 канцэнтрацыйных лягераў, у каторыя загнана 45 тысяч інтэрнаваных. Усяго палітычных вязьняў у Германіі ёсьць 80 тысяч. Ня дзіва, што бел. хадэцыя і „Крыніца" так захоплена гітлероўскай «цывілізатарскай» дзеяльнасьцю.

× *Дамаганьне гітлероўцаў* у доках Гамбург-Альтона сацыялізацыі сродкаў вытворчасьці, г. зн. рэалізацыі абяцанак Гітлера, пацягнула за сабою арышт 60 зачыншчыкаў-бунтаўшчыкоў.

× *29 жніўня* ў Львове ўлады бясьпечнасьці правялі, як пішуць газэты, ліквідацыю тэхнічнай арганізацыі Цэнтральнага Камітэту КПЗУ. Агулам арыштавана 20 асоб.

× *У СССР* прыбыла экскурсія ангельскіх і францускіх прамысловых колаў з мэтаю развязаньня з савецкімі ўладамі над магчымасьцю разбудовы гандлёвых адносінаў.

× *Нямецкая паліцыя* разам з гітлероўскімі штурмавікамі дня 28 жніўня перайшла швайцарскую граніцу, выклікаючы глыбокае абурэньне ў уладаў Швайцарыі.

× *У Румыніі*, як падаюць газэты, міністэрства ўнутраных спраў пастанавіла пабудаваць аграмадны канцлягер для камуністаў, якія апошнімі часамі праявілі жывую дзеяльнасьць.

× *У Лёндане* 29 жніўня адбылася шматтысячная дэманстрацыя супроць нямецкага фашызму, якая трэбавала вызваленьня ўсіх палітычных вязьняў.

× *У Варшаве* 28 жніўня арыштована 9 камуністычных дзеячоў.

× *У школе* для гданскіх палякоў гітлероўскі вучыцель Рэнк зьбіў кіем аднаго вучня змушаючы яго ўступіць у гітлероўскую арганізацыю. З усімі апорнымі абяцаў распраўляцца так сама.

× *У Румыніі* перад 3 вёрасьня, т. зв. МЮД-ам (Міжнародным Юнацкім Днём) паліцыя правяла масавыя арышты камуністаў. («Н. Время»).

× *„Мільён людзей* галадуе ў Нямеччыне ў выніку гітлероўскіх перасьледаваньняў"—так сказаў дэлегат дацкай сацыял-дэмакрацыі на кангрэсе ІІ Інтэрнацыяналу.

# Музыка грае...

(Фэльетон).

Даўно ці нядаўна было гэта—ня ведаю. Рота зьбіраецца на фронт... Тоўсты поп ходзіць між радоў салдат. Благаслаўіць крыжам і просіць, каб моцна стаялі „за веру, царя и отечество".

Салдаты гатовы...

„Вперед!"—раздаецца голас фэльдфэбэля.

Цяжкія салдацкія боты выбіваюць такт... — Раз-два-тры!—Раз-два-тры!

— „Сьпяваць!" пачулася ізноў каманда.

Салдаты маўчаць. Іх думкі цяпер далёка... Толькі дзесь між радоў пачуўся голас: „Сьпявай, калі табе весела".

Ізноў усё ціха...

Лятуценьні салдатаў снуюць далёка, навокала роднай пакінутай вёскі, пад шэрай сялянскай стрэхай. Там старыя бацькі або жонка з дзеткамі гінуць з голаду. Ды і самы яны не наетыя...

Далей думка імкнецца на фронт, дзе чакае іх «вораг»—такі-ж сын сялянскае стрэхі.

У іх нэрвова уздрывгаюць рукі і ногі... Раскідаецца тахт:

— «Музыканты!—паходны марш!»

Чуецца аркестра пад каманду.

Пад гукі маршу салдаты неяк ляпей сталі рабіць тахт і з нейкай бадзёрайшай верай у перамогу ішлі на фронт.

А музыка ім грала...

—·—

Ведаюць добра паны Ярэмічы, Багдановічы, Пазьнякі і ўся іх кампанія, што пад музыку ляпей скакаць ці маршыраваць. Зайгралі яны на сваіх хадэцкіх гусьлях на тысячы ладоў. Парушаюцца найтанчэйшыя, найбольш далікатныя струны. Яны думаюць, што мы будзем скакаць пад іх дудку. З салодкай сьлінкай на губах яны пільна і з задаваленьнем акомпаньююць песьням інтэрвэнцыі Гітлераў-Розэнбэргаў.

Пад камандай гэтых «вялікіх мужоў», «бацькі» беларускага адраджэньня рыхтуюцца да абароны, ратаваньня Савецкай Беларусі ад «людаецтва»... «голаду» і «русыфікацыі беларускае культуры», так сама, як калісьці пад гэтым самым плашчыкам ішлі на змаганьне «за веру, царя и отечество». Але мы не паслухмяныя... Аркестра хоць і прыгожая, але нам добра знаная...

Каманда-без вынікаў...

Злуюцца дырыжоры і кампазытары...

Шукаюць новых і новых матываў...

І музыка ўсьцяж грае... *П. Сошко.*

# Адказы рэдакцыі.

*Макар Палын.* З прычынаў цэнзурных вершаў Вашых зьмясьціць ня можам. Добрыя пераклады з чужых моваў прысылайце. Напішыце Ваша праўдзівае прозьвішча. Чакаем на карэспандэнцыі. Добра было-б каб Вы ня толькі хвалілі нашу і Вашу газэту, але стараліся прыдбаць ёй у сваёй аколіцы платных падпішчыкаў, і зьбіраць грошы на прэсавы фонд.

*А. Рэдзько.* З папраўкамі скарыстаем. Пішыце больш.

*Малазямельны.* В. добрае. Чакаем на абяцаныя карэспандэнцыі і платных падпішчыкаў.

*Прыхільнік.* Вы пішаце, што мы за шмат мейсца пасьвячаем дэмаскаваньню хадэцыі і „Б. Крыніцы". Паводле Вас, яна не заслугоўвае такое ўвагі, бо беларускае грамадзянства даўно ўжо зразумела ролю партыі кс. Станкевіча і яе прыбудовак, як Нац. Камітэту, Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і т. д. Нам здаецца, што Вы крыху мыляецеся. Мы згодны з Вашай думкай, што беларускае грамадзянства зразумела „прадажную ролю бел. хрысьціянскіх дэмакратаў". Але да гэтага трэба дадаць, што ня ўсё грамадзянства. Сваімі спрытнымі нацыянальна-сацыяльнымі фразамі хадэкі часта яшчэ ашукваюць найбольш цёмныя, адсталыя і маласьвядомыя пласты нашага народу. І таму дэмаскаваць іх трэба на кожным кроку, у кожнай галіне нашага жыцьця.

*У—р Мясцовы.* Скарыстаем. Пішыце на менш дражлівыя тэмы. Беларускае тэорыі славеснасьці ў Зах. Беларусі няма. Іншыя можаце знайсьці ў кожнай кнігарні.

*Вясковы.* Выкарыстаем. Напішыце праўдзівае Вашае прозьвішча.

Грашовае справаздачы, з прычыны браку мейсца не даём.

Рэдактар-выдавец: інж. А. Карповіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22